









АГУЛЬНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА | РАСПАЎСЮДЖВАЕЦЦА Ў 48 КРАІНАХ

# Голас Радзімы

9 верасня 1999 года
Цана 20 000 рублёў

№ 36

Штотыднёвая газета для суайчыннікаў за межамі Беларусі
Выдаецца з 1955 г.

## ДА 60-годдзя ЎЗ'ЯДНАННЯ БЕЛАРУСІ








**У гэтыя дні ў Гродзенскім абласным краязнаўчым музеі ўсеагульную ўвагу прыцягвае багатая экспазіцыя, прысвечаная 60-годдзю далучэння Заходняй Беларусі да БССР. Асобны стэнд прысвечаны тераічнаму падпольшчыку, а затым вядомаму палітычнаму дзеячу Беларусі Сяргею Прытыцкаму.**

**НА ЗДЫМКАХ: карта Заходняй Беларусі; ля стэндаў музея; "Сяргей ПРЫТЫЦКІ" — рэпрадукцыя карціны з фондаў музея.**

**Фота Генадзя СЯМЁНАВА, Аляксандра ТАЛОЧКІ, БелТА.**

## АФІЦЫЙНА

30—31 жніўня ў Мінску знаходзіўся міністр па справах рэлігій Дзяржавы Ізраіль Іцхак Кохен. Ён прыязджаў у беларускую сталіцу па запрашэнню рэлігійных іудзейскіх арганізацый і Беларускага аб'яднання яўрэйскіх арганізацый і абшчын.

У першы дзень знаходжання ў Мінску Іцхак Кохен пабываў ля мемарыяла ахвярам яўрэйскага гета "Яма", сустрэўся з прадстаўнікамі яўрэйскіх арганізацый сталіцы, з работнікамі пасольства Дзяржавы Ізраіль у Мінску, пагутарыў з кіраўнікамі яўрэйскіх абшчын Беларусі.

31 жніўня Іцхак Кохен быў прыняты ў Дзяржаўным камітэце па справах рэлігій і нацыянальнасцей. Падчас размовы з замежным госцем і асобамі, якія яго суправаджалі, старшыня камітэта Аляксандр Білык запэўніў, што ў нашай краіне створаны спрыяльныя ўмовы для адраджэння і паўнацэннай дзейнасці нацыянальных супольнасцей і рэлігійных арганізацый. А. Білык і І. Кохен на сустрэчы дамовіліся аб супрацоўніцтве паміж Дзяржкамітэтам па справах рэлігій і нацыянальнасцей і адпаведным міністэрствам Ізраіля. У гэты ж дзень І. Кохен быў прыняты старшынёй Мінскага гарвыканкама Уладзімірам Ярмошыным.

**Юрый ДОМНІЧ.**

## ВІНШУЕМ!

14 верасня 1999 года спаўняецца 75 год з дня нараджэння вядомага вучонага і паэта, заслужанага дзеяча навукі і тэхнікі Беларусі, члена-карэспандэнта Беларускай акадэміі навук, рэктара Інстытута сучасных ведаў **Аляксандра ШЫРОКАВА**.

За доўгія гады, дзе б ні працаваў, А. Шырокаў паўсюль пакінуў важкі след добрых спраў: навуковыя працы ў галіне радыёэлектронікі і кібернетыкі, дзесяткі таленавітых вучняў і... шматлікія паэтычныя творы, якія ўвайшлі ў зборнік вершаў "Удивленье" (на рускай мове). Наш сталы аўтар Мікола Савік падрыхтаваў артыкул да юбілею А. Шырокава, які будзе змешчаны ў наступным нумары газеты.

**А пакуль мы далучаемся да шматлікіх віншаванняў, якія атрымлівае ў гэтыя дні юбіляр, і шчыра зычым яму здароўя і творчага плёну.**

## АДВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" выказвае шчырую падзяку **Ірэне КАЛЯДЗЕ**, беларусцы з Кліўленда, якая прафінансавала гэтым летам адпачынак дзяцей з чарнобыльскай зоны Беларусі на Эгейскім моры. Гэта не першая дабрачынная акцыя нашай зямлячкі. З яе ласкі беларускія дзеці (некалькі груп) адпачывалі летась у Славеніі, а сёлета — у Чэхіі і Эстоніі. А яшчэ Ірэна праніклася болем Наталлі і Алеся Гушчаў і дапамагла ў лячэнні ў ЗША іх дачушкі, якая пацярпела падчас пажару.

Маладой дзяўчынай Ірэну Каляду ваенная віхура адарвала ад дому. На чужыне давялося нанава ладзіць свой лёс. Як толькі адчынілася "жалезная заслона", спадарыня Ірэна прыехала на Радзіму ў Беларусь, наведала пацярпелыя ад Чарнобыля раёны Палесся, хворых ад радыяцыі дзяцей у шпіталях. Тады дала сабе зарок: дапамагаць дзецям Беларусі, колькі хопіць сілы. Вярнуўшыся ў ЗША, стварыла дзіцячы фонд, і з таго часу гэтая праца — паўсядзённы клопат Ірэны Каляды.

Добрым людзям, дай Божа, добрую долю!

## АСОБА

Пасля чарнобыльскай катастрофы па ініцыятыве мастакоў, эколагаў і медыкаў у Беларусі было створана дабрачыннае творчае аб'яднанне "МЭЯ" (мастацтва, экалогія і я). Сёння ім кіруе гомельская мастачка Ларыса ЗУЕВА (на здымку). Пры дапамозе мастацтва аб'яднанне імкнецца змяніць адносіны людзей да прыроды, яе захавання, ад чаго залежыць здароўе падрастаючага пакалення. "МЭЯ" працуе над праектам ЮНЕСКА "Мастацтва ў бальніцы".

200 скачкоў з парашутам здзейсніў за час службы старшы тэхнік мабільнай роты 1-га мабільнага батальёна 317 асобнай мабільнай брыгады віцяблянін Іван ДОЎГАНЬ.

**Фота БелТА.**

## УЛАДА І ЛЮДЗІ

# ЛІДЭР НЕ ЗМЯНІЎСЯ

Сацыялагічны цэнтр Полацкага дзяржаўнага універсітэта ў межах маніторынгавай праграмы "Улада і людзі" правёў 20—30 чэрвеня 1999 года чарговае апытанне сярод жыхароў старажытнай сталіцы Беларусі — горада Полацка. У апытанні па квотна-прапарцыянальнай выбарцы прынялі ўдзел 1050 чалавек. Выбарка рэпрэзентатыўная. Камп'ютэрная апрацоўка матэрыялаў палявой часткі даследавання выканана з дапамогай праграмнага пакета SPSS.

Адной з задач даследавання было вызначыць сярод палачан рэйтынг найбольш уплывовых палітычных і грамадскіх дзеячаў Рэспублікі Беларусь.

Калі б выбары прэзідэнта адбыліся ў чэрвені-жніўні гэтага года, то вынік галасавання на карысць А. Лукашэнкі сярод палачан склаў бы 71 працэнт. Найбольшым аўтарытэтам сёння ён карыстаецца сярод рабочых, пенсіянераў, спецыялістаў і служачых. Важна звярнуць увагу і на такую акалічнасць, што колькасць жанчын у электараце Прэзідэнта амаль удвая большая, чым мужчын.

На другім месцы па выніках даследавання аказаўся прэм'ер-міністр Беларусі С. Лінг — 5,1 працэнта. У яго падтрымку ў Полацку выказалася 2,3 працэнта пенсіянераў, 3,7 працэнта рабочых, 4,3 працэнта спецыялістаў і служачых.

Трэцюю прыступку займае З. Пазняк (1,7 працэнта). У электараце З. Пазняка 1,9 працэнта полацкіх рабочых, 1,0 працэнта спецыялістаў і служачых, 0,4 працэнта пенсіянераў.

Чацвёртае і пятае месцы належаць С. Шушкевічу (1,5 працэнта) і М. Чыгіру (1,0 працэнта).

Рэйтынг астатніх прэтэндэнтаў не перавысіў 1 працэнта — У. Андрэйчанка (0,8 працэнта), С. Багданкевіч (0,8 працэнта), Л. Баршчэўскі (0,5 працэнта), С. Шарэцкі (0,5 працэнта), А. Лябедзька (0,3 працэнта), С. Калякін (0,2 працэнта) і г. д.

Незайздросным падаецца становішча палітычных партый і грамадскіх рухаў. Абсалютная большасць палачан (86,7 працэнта) не праяўляе аніякай цікавасці да іх дзейнасці, і толькі 13,3 працэнта аддалі перавагу той ці іншай з іх, у прыватнасці, Беларускаму народнаму фронту "Адраджэнне" — 2,1 працэнта, Беларускай партыі жанчын "Надзея" — 1,3 працэнта, Партыі камуністаў беларускай — 1,0 працэнта, Камуністычнай партыі Беларусі — 0,9 працэнта...

**Васіль ШАЙКОЎ,**
**загадчык кафедры гісторыі і сацыялогіі Полацкага дзяржуніверсітэта.**
("Звязда").

## ЛІРЫЧНЫ НАСТРОЙ



**Генадзь АЎЛАСЕНКА**

Як хутка
круціцца Зямля...
Як непрыкметна,
спакваля,
мінула лета...
Хвіліны,
месяцы,
гады —
усё спяшаецца...
Куды!
Каб ведаць гэта...
Там рыса нейкая
ляжыць!
Да рысы гэтае
бяжыць
жыцця дарога...
А што за ёю!
Выбірай:
там можа пекла,
можа рай...
Альбо нічога
наогул там не існуе...

«САДРУЖНАСЦЬ-99»







Міністр абароны Рэспублікі Беларусь Аляксандр Чумакоў прыняў удзел у вучэннях "Баявая садружнасць-99", у якіх удзельнічалі сілы ППА краін СНД. За ходам стрэльбаў назіралі міністры абароны дзяржаў СНД. Пасля вучэнняў адбылося пасяджэнне Савета міністраў абароны дзяржаў-удзельніц СНД.

НА ЗДЫМКАХ: міністры абароны краін СНД назіраюць за ходам вучэнняў; міністры абароны Беларусі і Украіны Аляксандр ЧУМАКОЎ і Аляксандр КУЗЬМУК падпісалі "Палажэнне аб узаемадзеянні па баявому дзяжурству сіл і сродкаў ППА Рэспублікі Беларусь і Украіны"; пуск ракеты "С-300".

Фота Віктара ТАЛОЧКІ, БелТА.

СПОРТ

**ГРЭБЛЯ.** На чэмпіянаце свету па акадэмічнаму весланню, што прайшоў у Сен-Катарыне (Канада), беларуская зборная атрымала дзве залатыя ўзнагароды. Спаборніцтвы адзіночак выйграла алімпійская чэмпіёнка Кацярына Карстэн (Хадатовіч), а затым у гонцы чацвёрак перамогу атрымала каманда дзяўчат у складзе: Марына Знак, Юлія Бычык, Алена Мікуліч, Вольга Трацэўская.

**БІЛЬЯРД.** У більярдна-спартыўным цэнтры "Пірамі-да" Мінскай федэрацыі більярднага спорту пад эгідай грамадскага аб'яднання "Беларуская асацыяцыя більярднага спорту" прайшоў першы камандны кубак Рэспублікі Беларусь. Удзел у кубку прынялі 8 каманд.

АКТУАЛЬНА

## НАКІРОЎВАЮЧЫСЯ Ў РАСІЮ, НЕ ЗАБУДЗЬЦЕ ЗАДЭКЛАРАВАЦЬ НАВАТ АДЗІН ДОЛАР

Пасля 5 ліпеня, калі былі ўнесены дапаўненні ў расійскі закон аб валютным рэгуляванні і валютным кантролі, многія грамадзяне нашай рэспублікі сутыкнуліся з праблемай вывазу наяўнай валюты з Расіі.

Як паведаміў БелТА ў прэс-службе Дзяржаўнага мытнага камітэта Беларусі, да прыняцця дапаўненняў нашы грамадзяне маглі вывозіць з Расіі да 500 долараў без прадстаўлення пацверджальных дакументаў. Цяпер жа ў законе гаворыцца, што фізічныя асобы — нерэзідэнты Расійскай Федэрацыі могуць вывозіць з краіны наяўную замежную валюту ў памеры, што не перавышае суму, раней увезеную, перавезеную або перасланую ў РФ, і пры прадастаўленні дакументаў, якія пацвярджаюць гэта.

Атрымліваецца, што з прыняццем гэтага закона такія дакументы патрабуюцца на любую суму, нават на 1 долар. І гэта пры тым, што нашы краіны ўваходзяць у мытны саюз і ўсе мытныя бар'еры паміж Расіяй і Беларуссю адменены. З гэтай праблемай, дарэчы, сутыкаюцца і грамадзяне трэціх краін, якія едуць, напрыклад, у Прыбалтыку праз Беларусь з заездам на тэрыторыю Расіі. Беларуская мытня дазваляе свабодны правоз тых жа 500 долараў, якія можна дэклараваць і вусна. Але пры выездзе з РФ мясцовыя мытнікі патрабуюць пацверджанне аб увозе валюты. Пацверджальнымі дакументамі з'яўляюцца дэкларацыі, афармленыя расійскімі мытнымі службамі, прызнаючыся і дэкларацыі, афармленыя беларускай мытняй.

Акрамя таго, як паведамілі ў прадстаўніцтве расійскай мытні ў Мінску, нават калі валюта легальна набыта ў Расіі і гэта дакументальна пацверджана, яна можа быць вывезена толькі фізічнымі асобамі — рэзідэнтамі РФ.

МІЖНАРОДНЫЯ СТАСУНКІ

## ДАПАМОГА АХВЯРАМ ЗЕМЛЕТРАСЕННЯ

**Пасол Турцыі ў Беларусі спадарыня Шуле Сойсал выказала ўдзячнасць беларускім уладам за рашэнне накіраваць у Турцыю самалёт з дапамогай для грамадзян, што пацярпелі ў выніку землетрасення.**

Ш. Сойсал заявіла, што на сёння сітуацыя ў рэспубліцы працягвае заставацца напружанай. Жыхары пацярпелых раёнаў Турцыі звяртаюць у першую чаргу патрэбу ў палатках і коўдрах, пітной вадзе і медыкаментах. У той жа час пасол адзначыла, што ўлады краіны ў стане забяспечыць гараджан прадуктамі харчавання ў неабходнай колькасці. Гарадскія ж улады ў пацярпелых раёнах звяртаюць цяжкасці ў дарожных машынах, неабходных для расчышчэння ўтвораных завалаў.

Разам з тым Ш. Сойсал паведаміла, што ўлады Турцыі прынялі рашэнне аб пачатку ўзвядзення ў краіне аднапавярховых зборных дамоў для людзей, што засталіся без жылля напярэдадні зімы.

У інтэрв'ю пасол падкрэсліла, што землетрасенне закранула раёны, якія з'яўляюцца "прамысловым сэрцам" краіны. А курортныя гарады, якія выбіраюцца грамадзянамі СНД для адпачынку на ўзбярэжжах Эгейскага і Міжземнага мораў, не пацярпелі. Таму ніякіх апасенняў за лёс грамадзян рэспублікі, якія адпачываюць там, быць не павінна, запэўніла дыпламат. Па яе словах, у гасцей Турцыі не павінна быць апасенняў і адносна магчымасці ўзнікнення ў краіне эпідэміі, меркаванне пра што выказвалася раней у СМІ. Да данага заключэння, па сцвярджэнню Ш. Сойсал, прыйшлі і эксперты Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, якія знаходзяцца ў Турцыі.

**ВІЗІТ ПРЭМ'ЕР-МІНІСТРА БЕЛАРУСІ СЯРГЕЯ ЛІНГА Ў ІСЛАМСКУЮ РЭСПУБЛІКУ ПАКІСТАН І НАРОДНУЮ РЭСПУБЛІКУ БАНГЛАДЭШ АДБУДЗЕЦЦА Ў КАНЦЫ 1999 — ПАЧАТКУ 2000 ГАДОЎ.** Для падрыхтоўкі візіту старшыні ўрада ў трэцім квартале гэтага года Пакістан і Бангладэш наведае адзін з намеснікаў міністра замежных спраў Беларусі. У ходзе паездкі прадстаўніка беларускага знешнепалітычнага ведамства плануецца падрыхтоўка да падпісання шэрагу міжурадавых пагадненняў. З урадам Пакістана рыхтуецца да падпісання гандлёвае пагадненне, пагадненне аб пазбяганні двайнога падаткаабкладання, пагадненне аб навукова-тэхнічным супрацоўніцтве, пагадненне аб узаемных безвізавых службовых паездках і міжведамаснае пагадненне аб кансультацыях паміж міністэрствамі замежных спраў.

З урадам Бангладэш рыхтуецца да падпісання гандлёвае пагадненне, пагадненне аб абароне інвестыцый, пагадненне аб безвізавых паездках па службовых справах, міжведамаснае — аб кансультацыях паміж міністрамі замежных спраў.

**ТАВАРААБАРОТ ПАМІЖ БЕЛАРУССЮ І ГЕРМАНІЯЙ ЗА СТУДЗЕНЬ—ЧЭРВЕНЬ БЯГУЧАГА ГОДА СКЛАЎ 482,7 МІЛЬЁНА ДОЛАРАЎ, ПАВЯЛІЧЫЎШЫСЯ НА 11,1 ПРАЦЭНТА Ў ПАРАЎНАННІ З АНАЛАГІЧНЫМ ПЕРЫЯДАМ МІНУЛАГА ГОДА.**

Як паведаміла прэс-служба МЗС Беларусі, экспарт у Германію за першае паўгоддзе гэтага года дасягнуў 104,5 мільёна долараў, павялічыўшыся на 13,2 працэнта ў параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года. Імпарт склаў 378,2 мільёна долараў, рост — на 10,6 працэнта.

З краін далёкага замежжа Германія застаецца найбольш актыўным знешнегандлёвым партнёрам Беларусі. Удзельная вага тавараабароту з гэтай краінай па выніках пяці месяцаў склала ў агульным аб'ёме 20,8 працэнта.

**ГОМЕЛЬСКАЯ, МІНСКАЯ, МАГІЛЁЎСКАЯ ВОБЛАСЦІ І ГОРАД МІНСК УСТУПІЛІ Ў МІЖРЭГІЯНАЛЬНУЮ АСАЦЫЯЦЫЮ ЭКАНАМІЧНАГА ЎЗАЕМАДЗЕЯННЯ СУБ'ЕКТАЎ ФЕДЭРАЦЫІ "ЦЭНТРАЛЬНАЯ РАСІЯ", У ЯКУЮ ЎВАХОДЗЯЦЬ ДВАНАЦЦАЦЬ РАСІЙСКІХ РЭГІЁНАЎ.**

Як паведамілі журналістам намеснік прэм'ер-міністра Беларусі Леанід Козік, "Цэнтральная Расія" утворана рэгіёнамі, якія найбольш цесна супрацоўнічаюць з беларускімі прадпрыемствамі, таму ўступленне ў яе беларускіх абласцей будзе садзейнічаць яшчэ больш цесным кантактам паміж канкрэтнымі прадпрыемствамі двух краін.



Фота Мікалая ПЯТРОВА, БелТА.

НОВАЯ ЛЯДОВАЯ АРЭНА



У Мінску ўступіла ў строй яшчэ адна лядовая арэна. Гэта былы адкрыты каток Палаца спорту. Цяпер тут можна трэніравацца і праводзіць спаборніцтвы ў любы час года.

Фота Генадзя СЯМЁНАВА, БелТА.

МІНСК, ЗАХАРАВА 28. ДОМ ДРУЖБЫ

Арсен ВАНІЦКІ

# АДЦЕННІ ЖЫЦЦЯ

## Урыўкі з главы «У імя будучага»

Лепш бы туды не паехалі. Як толькі дэлегацыя паднялася на другі паверх службовага памяшкання, яе сустрэлі спартсмены, але не ў лепшай форме, а ў цэлай кампаніі маласпартыўных жанчын... Прыйшлося засмучона рэціравацца. Гаспадар праграмы прапанаваў заехаць у прыватызаваны квартал, паглядзець новыя кафэ-гасцітэты. На жаль, і там, куды нас завезлі, не было не толькі радасці, а нават кавы...

Тыповы прыклад звышгасціннасці, які, на жаль, яшчэ бытуе ў нас, акумулявала амерыканка Рубі Эрыксан. Калі яе запыталі, ці ўжывае яе муж Эмеры гарэлку, адказала, што ён аднойчы за сваё жыццё быў п'яны і адбылося гэта ў час знаходжання ў Беларусі. Не кожны чалавек можа прывыкнуць да непатрэбнага прымусовага, як гэта нярэдка бывае, частавання.

З заўжды прыстойнымі людзьмі — кіраўнікамі таварыстваў дружбы "Польшча—Усход" і "Польшча—Беларусь" Стэфанам Наўротам, Баляславам Хмяліньскім, Юзэфам Брылём сяброўскія адносіны склаліся даўно, калі яны мелі дачыненне да Саюза польскай моладзі. Як і належыць добрым суседзям, ладзім сустрэчы, семінары, дзелімся думкамі і здзяйсненнямі. Разумеем адзін аднаго і ў дыскусіях у дачыненні да вялікіх імён, якімі аднолькава ганарыцца і Беларусь, і Польшча: Адама Міцкевіча, Элізы Ажэшка, Станіслава Манюшкі, Уладзіслава Сыракомлі, Яна Чачота. Наладзілі ўжо 10 тэматычных канферэнцый польскіх і беларускіх навукоўцаў. Асобная старонка — Свідзянскія сустрэчы, на якія кожны год да гэтага часу з'язджаюцца пераможцы агульнапольскіх алімпіяд беларускай мовы.

Пастаяннымі і пажаданымі былі раней і паходы па месцах воінскай славы салдат Польскай дывізіі імя Тадэвуша Касцюшкі.

Значны ўклад у развіццё паўсядзённых добрасуседскіх адносін разам з польскімі калегамі ўнёс народны паэт Беларусі Максім Танк, які дзесяткі гадоў узначальваў Таварыства беларуска-польскай дружбы.

Амаль усе святы жыхары Гродзеншчыны і Брэстчыны, як і іх сябры і родзічы з Беластоцкага і Люблінскага ваяводстваў, ладзілі са шчырасцю сумесна, кожны год гучалі польскія песні і музыка ў Віцебску, беларускія — у Зялёнай Гуры. А вось нядаўна, у час правядзення Дзён культуры Беларусі ў Польшчы, давялося, на жаль, адчуць не тое. Непажаданым стаў некаторым афіцыйным асобам Польшчы паказ людзям беларускай культуры, і яны літасціва дазволілі вядучым мастацкім калектывам — Тэатру балета, ансамблю танца "Харошкі" і іншым выступіць толькі адзін раз. На гэтых канцэртах, дарэчы, былі знаёмыя людзі — даўнія сябры Таварыства польска-беларускай дружбы. Хто мог падумаць раней, што такое здарыцца, што колішняе застанецца

Заканчэнне.
Пачатак у №№ 25—27, 29, 30, 32—33, 35.







# ФЭСТ «АЎТАСПАДЧЫНЫ»

Беларускі фестываль старадаўняй аўтатэхнікі "Аўтаспадчына" прайшоў у Мінску. У фестывалі прынялі ўдзел клубы Беларускай федэрацыі старадаўняй аўтатэхнікі.

50 антыкварных аўтамабіляў, сярод якіх рэспектабельныя "ЗІМ", "Чайка", папулярныя "Масквічы", "Волгі", "Перамогі", аўтамабілі Германіі, ЗША праехалі па цэнтральных вуліцах сталіцы.

На Кастрычніцкай плошчы быў арганізаваны агляд аўтамабіляў, матацыклаў Мінскага мотавелазавода, аўтабронетэхнікі ваеннага і пасляваеннага перыядаў.



НА ЗДЫМКАХ: Вячаслаў ПУХАЛЬСКІ, уладальнік аўтамабіля "Варшава" выпуску 60-х гадоў; на выставе антыкварных аўтамабіляў; аўтамабілі "Бьюік" 37-га года і "Хорх" 38-га года выпуску.

**Фота Віктара ТАЛОЧКІ, БелТА.**

## ЭКАЛАГІЧНЫ ДЭСАНТ



Фота БелТА.

Старажытны парк Альба ў Нясвіжы значна аднавіў гэтым летам зборны атрад студэнтаў вышэйшых навучальных установ Беларусі. Экалагічны валанцёрскі лагер складаўся з 70 чалавек. Маладыя эколагі бясплатна працавалі на ачыстцы тэрыторыі парку, якая займае каля 300 гектараў. У час Радзівілаў тут былі разбіты "італьянскія сады". Маёнтак Радзівілаў і паркавыя ансамблі, што прымыкалі да яго, былі ў свой час вядомыя ва ўсёй Еўропе. Цяпер насаджэнні Альбы прынялі выгляд лесапаркавага масіву, дзе яшчэ сустракаюцца старыя ліпы і дубы. Удзельнікі экалагічнага валанцёрскага лагера "Альба-парк" надалі яму дагледжаны выгляд.

НА ЗДЫМКУ: удзельніца экалагічнага лагера Святлана НОВІКАВА.

«РОЗНЫЯ—РОЎНЫЯ»

# ТАЯМНІЦЫ ПЛЕМЕНІ КВАКШЭЙ



Беларускае маладзёжнае грамадскае аб'яднанне "Розныя—Роўныя" добра вядомае па музычнай акцыі "Шкло супраць пластыка". Летась на мяжы Мінскай і Віцебскай абласцей яно правяло міжнародны фестываль "Круглае возера-99". Больш за шэсцьдзесят хлопцаў і дзяўчат з Беларусі, Расіі, Украіны размясціліся ў палатачным гарадку пад соснамі каля берага возера Швакшты. І ў першы ж вечар яны былі ўрачыста прыняты ў племя квакшэй — казачных жыхароў тутэйшых мясцін.

Удзельнікаў фестывалю размеркавалі па чатырох атрадах — чатырох самастойных "дзяржавах" са сваімі законамі, сімволікай, уладнымі органамі. Усе дні былі насычаны мноствам падзей. Прадстаўнікі моладзі вучыліся дамаўляцца, знаходзіць мірнае вырашэнне гульнявых канфліктаў, якія ўзнікалі паміж "краінамі". Набылі каштоўныя ўменні па мадэліраванню праектаў. Азнаёміліся з еўрапейскімі структурамі, занятымі ў сферы маладзёжнай палітыкі. У ваенна-спартыўнай гульні "Казакі-разбойнікі" кожнаму ўдзельніку разам са сваёй камандай неабходна было пераадолець некалькі кіламетраў, прайсці праз пікеты, прадэманстраваць сілу, кемлівасць і артыстызм. Многія ўпершыню, як сапраўдныя альпіністы, з дапамогай сяброў па канаце ўзбіраліся на высокае дрэва. Нямала вострых адчуванняў прынесла і пераправа праз глыбокі яр. Кожную раніцу інструктары праводзілі заняткі па аздараўленчай гімнастыцы і сеансы лячэбнага масажу. Усе восем дзён працягвалася гульня "Тайны сябар". У першы ж вечар па жэрабю кожны вызначыў таго чалавека з ліку ўдзельнікаў фестывалю, на адрас якога трэба было, хаваючы сябе, накіроўваць асобую ўвагу, падносіць падарункі, ахінаць пяшчотай. З гэтай прычыны атмасфера палатачнага гарадка была прасякнута загадкавасцю і рамантыкай. А падчас Дня Нептуна на сонечным беразе Швакштаў адбыўся шумны маскарад. І, наогул, ніводны дзень не абыходзіўся без жартаў, святочных канцэртаў і дыскатэк.

Трэба адначыць, што такі фестываль, як "Круглае возера-99", на Беларусі раней не праводзіўся. Той, што прайшоў на Швакштах, меў важную асаблівасць: у ім удзельнічалі інваліды і маладыя людзі з абмежаванымі фізічнымі магчымасцямі, тыя, ад каго ў грамадстве звычайна адгароджваюцца высокімі сценамі непаразумення. Тут жа, у "племені квакшэй", адбыўся цуд. У адарванай ад усяго свету маленькай "краіне" разнастайныя бар'еры, абмежаванні і забабоны зніклі, папросту страцілі свой сэнс, і ўсе такія розныя сталі абсалютна роўнымі.

— Вельмі хацелася б, — гаворыць Таццяна Літошык, лідэр БМГА "Розныя—Роўныя", — каб, вярнуўшыся ў "цывілізацыю", яны захавалі гэты цудоўны стан душы. А мы ўжо думаем аб "Круглым возеры-2000" і збіраемся пашырыць кола ўдзельнікаў, запрасіўшы моладзь з краін СНД, Усходняй і Заходняй Еўропы.

**Руслан АНАНЬЕЎ.**



Фота Сяргея [illegible]АЛАДЗІ[illegible], БелТА.

Два залатыя і чатыры бронзавыя медалі прывезлі гомельскія школьнікі са штата Паўночная Караліна (ЗША), дзе прымалі ўдзел у Спецыяльных Алімпійскіх гульнях для дзяцей-інвалідаў з абмежаванымі інтэлектуальнымі магчымасцямі. У конным спорце, які яны прадстаўлялі, гомельская каманда была адзінай сярод краін СНД. Усяго ў Гульнях прымалі ўдзел прадстаўнікі 150 краін свету.

НА ЗДЫМКУ: удзельнікі "Спешыал Алімпікс" Коля КІРАЎ, Валерыян АНУФРЫЕЎ, Оля КАНЫШАВА і Юля ЧУЙКОВА.

ў мінулым. Так не павінна быць, упэўнены, што гэта часовае палітыканства.

Блізкія народы, тым больш сумесныя сем`і, раз`яднаць немагчыма. Колькі іх, нарачоных, у якіх дзеці лічаць сябе хто палякам, хто беларусам?!

Шчодры народ Беларусі паважліва ставіцца да людзей, якія прыязджаюць да нас з адкрытым сэрцам, добрымі намерамі. Яскрава аб гэтым сведчылі сустрэчы з прадстаўнікамі культуры Іспаніі, Швейцарыі, Сірыі, Індыі, жаночых асацыяцый Кіпра, моладдзю Мазамбіка, Буркіна Фасо, навукоўцамі Аргенціны, Кубы, журналістамі Чэхіі, Славакіі... Усе яны павезлі з сабой цеплыню, якая выпраменьвае дабро і людскую справядлівасць. Частка замежных гасцей гаворыць і аб недакладнай інфармацыі, якая распаўсюджваецца аб нашай краіне. Робіцца гэта, з іх слоў, проста: адасобленыя факты падаюцца без паслядоўнасці, узаемасувязі, пры гэтым ігнаруюцца асяродак і акалічнасці іх узнікнення. Натуральна, што найважнейшы сродак для аб`ектыўнасці — паказ сапраўднага жыццёвага становішча.

У першыя дні знаходжання на Беларусі былы прэзідэнт ландтага зямлі Ніжняя Аўстрыя Фердзінанд Райтэр быў надта насцярожаны. Многа пытанняў мелася ў яго да рабочых і інжынераў Беларускага аўтамабільнага завода. Затым Райтэр наведаў камбінат "Мір", пасёлак Жамчужны, што пад Баранавічамі. Многіх радуюць там прыгожыя сельскія вуліцы, дамы з кватэрамі ў двух узроўнях, прасторны, на гарадскі лад, Палац культуры. Уражваюць сядзібы, што нагадваюць агародчыкі-кветнічкі. Усё гэта створана рукамі людзей на бясконцых, як здавалася, балотах уздоўж рэчкі Мышанка. Гэта непадалёку ад тых мясцін, дзе і цяпер у народнай памяці засталіся назвы "напалеонаўскі тракт", "нямецкія акопы", "шведскі курган". Як жа ўспрыняў усё гэта пан Райтэр? Ён сказаў, што аб`ехаў многа краін, але "такога дружалюбства і працавітасці, якія ўбачыў у час паездкі па Беларусі, не сустракаў нідзе".

Сотні людзей штогод прыязджаюць, каб выказаць свае адносіны да мужнасці беларускага народа ў барацьбе з фашызмам. Сярод іх былі колішні старшыня Славацкага нацыянальнага савета Вільям Шалговіч, прадстаўнікі асацыяцыі былых італьянскіх партызан Камунарда і Феручыа Мауры, групы ветэранаў другой сусветнай вайны з Канады, Вялікабрытаніі, Францыі.

"Усе мы ведаем, які вялікі ўклад унесла Беларусь у перамогу над фашызмам, — сказаў канадзец Харольд Кінгелі. — Мы вельмі высока цэнім гераізм вашага народа. Упэўнены, што ваша краіна шчыра імкнецца да забеспячэння міру на планеце. Каб упэўніцца ў гэтым, дастаткова сустрэцца з вашымі людзьмі".

На гістарычных фактах, сабраных у час паездкі па Беларусі, канадскі пісьменнік Айвар Мілз напісаў кнігу "Праз гады не сціхае боль страт". Галандскі пісьменнік Дзік Валда і бельгійскі Людо ван Эк пасля наведвання нашай краіны завяршылі працу над кнігай "Дзеці таго часу". Яны ж сааўтары яшчэ аднаго выдання "Гэта не павінна паўтарыцца". Нарысы аб сувязях народаў Беларусі і Індыі "Шляхамі дружбы" напісаў кіраўнік індыйскага культурнага таварыства Г. Рамакрышна.

Пасля неаднаразовага наведвання Беларусі амерыканскі пісьменнік Уільям Мандэла прысвяціў нашай рэспубліцы неблагую кнігу з нязвыклай назвай "Савецкія, а не рускія". У ёй зроблены высновы аб галоўнай сутнасці сацыяльнага вобраза беларускага народа: "Правядзіце некалькі дзён на Беларусі, — піша аўтар, — пагаварыце з народам па любым пытанні, пасля чаго цяжка не зрабіць выснову, што для яго, які ахвяраваў кожным чацвёртым, забеспячэнне міру з`яўляецца самай важнай часткай нацыянальнай псіхалогіі. Калі паглядзець, чым стала Беларусь на працягу трох пакаленняў, то гэта не можа не ўзмацніць веру ў гуманітарны патэнцыял народа". У кнізе не абыдзены ўвагай імёны і творы Заіра Азгура, Васіля Быкава, Максіма Лужаніна, Янкі Брыля, іншых вядомых прадстаўнікоў беларускага народа — Веры Харужай, Вольгі Корбут, Андрэя Грамыкі.

На працягу многіх гадоў да нас прыязджае нямецкі мастак Крыстаў Ніс. Ён стаў адным з ініцыятараў экспанавання ў Мінску, затым у Берліне выставы нямецкіх і беларускіх мастакоў "Вайна стукае ў сэрца кожнага". Урэзаліся ў памяць яго словы, сказаныя на адкрыцці выставы: "Беларусь часу вайны — попел, кроў, злачынствы, прычынай гэтаму стаў жудасны план, распрацаваны ў горадзе, адкуль мы прыехалі. Народы знішчалі адзін аднаго па віне тых, хто і сёння марыць узбагаціцца за кошт ваеннага разбою". Неардынарны ўчынак здзейсніў былы германскі капітан Ганс Ёрген Кіміх, які ў 1944 годзе апынуўся пад Оршай у складзе 25-й дывізіі вермахта. Ён, дарэчы (шкада, што не раней), прывёз карты мінных палёў, якія спатрэбіліся для арыентаваных пошукаў смертаносных знаходак, што засталіся яшчэ да нашага часу.

Дружалюбства не можа быць выпадковай з`явай, яно ўзнікае і доўжыцца, дзякуючы ўзаемаразуменню і ўзаемапавазе. Знаёмства, сустрэчы, дыялогі прадстаўнікоў грамадскасці розных народаў, іх сумленная праца ствараюць атмасферу еднасці, а не супрацьстаяння. Гэта, як ніколі, патрэбна ў наш напружаны, раз`яднаны і трывожны час.

Цяперашняе жыццё, мабыць, увойдзе ў гісторыю як час супрацьстаяння і антаганізму былых і новых, сумленных людзей і дзялкоў. Супярэчнасцей у жыцці сёння, на жаль, больш, чым згоды. Занадта многа развялося тых, хто не звяртае ўвагі на выпрацаваныя грамадскай думкай, царквой маральныя прынцыпы, хрысціянскія запаветы дабра і справядлівасці.

За некаторымі асобамі, якія лічаць сябе вялікімі прадстаўнікамі нацыі, нельга прасачыць, як за тым маятнікам насценнага гадзінніка, ці злева ён, ці справа. Зашмат часовых аб'яднанняў, якія ствараюцца іх лідэрамі, каб зацвердзіць сваю неардынарную ролю. Групоўкі часта аб'ядноўваюць кан'юнктурныя інтарэсы. Але "героі" смуты рэдка застаюцца да яе канца. Сілкаванне каранёў палітыканства — з'ява часовая, а чалавечая мараль — катэгорыя вечная і пераможная. Наколькі трывалыя сувязі людзей, адназначна сказаць нельга. Сяброўства застаецца на доўгія гады. Добрых знаёмых таксама мець някепска. Усё залежыць ад мэтаў, з якімі шукаюць сувязі, ад нашага ўмення знайсці агульную мову. Плённасць сувязей грунтуецца на прывабных і карысных для абодвух бакоў тэмах, праграмах супрацоўніцтва.

Бываюць і такія "госці", якія хочуць мець толькі асабістую выгаду. Да розных людзей даводзіцца ставіцца па-рознаму. У той жа час традыцыйныя сувязі не бываюць аднолькава пастаяннымі. Тым больш, што ў краінах нашых партнёраў сітуацыя таксама мяняецца. На характар адносін паміж людзьмі ўплываюць нават узрост, здароўе і настрой. Вельмі да сэрца словы: "Мы супрацоўнічаем з Таварыствам дружбы таму, што яно не займаецца палітычнымі разборкамі і непатрэбнай мітуснёй", якія мы часта чуем ад нашых замежных партнёраў. У гэтым ёсць вялікі сэнс. Патрэбныя людзям напрамкі дзейнасці фарміраваліся дзесяцігоддзямі на гуманістычных прынцыпах. Мабыць, таму Дом дружбы не бывае пустым, заўжды ён багаты на добрых людзей. І справа ладзіцца талакой, бо ёсць тут еднасць і атмасфера сяброўства. Тут сходзяцца розныя плыні, скрыжоўваюцца розныя думкі, у той жа час падтрымліваецца і сцвярджаецца адзіны накірунак народнай дыпламатыі на карысць незалежнай Беларусі, плённага супрацоўніцтва паміж народамі.

# ШЧЫРАЯ ДАПАМОГА З АНГЛІІ

● **Эдуард ДУБЯНЕЦКІ,**
*кандыдат гістарычных навук.*

**На працягу XIX—XX стагоддзяў шмат карэнных жыхароў Беларусі па розных прычынах апынуліся за межамі Бацькаўшчыны. Частка з іх за многія дзесяцігоддзі свайго замежнага жыцця ўжо асімілявалася, больш-менш добра засвоіўшы мову, звычаі і традыцыі тых народаў, сярод якіх яны пражываюць. Іншыя, якія таксама нядрэнна адаптаваліся да мясцовых рэалій, усё ж не страцілі свайго нацыянальнага аблічча, не забыліся пра свае вытокі, прыродна-генетычныя і моўна-культурныя карані.**

**Але, відаць, было б цікавым больш падрабязна спыніцца менавіта на тых прадстаўніках беларускай дыяспары, якія ўжо ўнеслі і зараз працягваюць уносіць прыкметны ўклад у беларускую культуру. Гэтыя людзі заўсёды душой і сэрцам цягнуцца да сваёй гістарычнай Радзімы, шчыра клапоцяцца пра яе сённяшні і заўтрашні дзень, пра захаванне народных традыцый, звычаяў, абрадаў і інш. Менавіта своеасаблівы "голас продкаў" (ці, дакладней, "голас крыві") абуджае гэтых людзей да актыўнай, самаахвярнай працы на карысць Бацькаўшчыны, дзеля свабоды і шчасця яе шматпакутнага народа.**

**Таму зараз хацелася б для пацвярджэння вышэйсказанага больш падрабязна спыніцца на канкрэтных прыкладах, распавесці пра трох слынных сыноў сваёй Бацькаўшчыны — святара Аляксандра НАДСОНА, вучонага Міхала ГЕДРОЙЦЯ і графа Анджэя ЦЕХАНАВЕЦКАГА. Нягледзячы на тое, што яны адрозніваюцца паміж сабой узростам, прафесійнай дзейнасцю, службовым становішчам, жыццёвым лёсам і інш., усіх іх аб`ядноўваюць два моманты: па-першае, шчырая любоў і павага да сваёй роднай зямлі, а па-другое, месца цяперашняга сталага жыхарства. Усе яны па волі лёсу пражываюць у Вялікабрытаніі. Аднак цяпер акрэслім дзейнасць кожнага з іх паасобку.**

Аляксандр НАДСОН — вядомы беларускі святар, тэолаг, багаслоў. Айцец Аляксандр — дырэктар Беларускага музея і Бібліятэкі імя Ф. Скарыны ў Лондане; апостальскі візітатар для беларусаў-католікаў за мяжой, старшыня Беларускага камітэта дапамогі ахвярам радыяцыі, што створаны ў Англіі. Ён нарадзіўся ў 1926 годзе ў Гарадзеі цяперашняга Нясвіжскага раёна ў настаўніцкай сям`і. У пасляваенны перыяд пераехаў у Вялікабрытанію. Яшчэ ў 1950-я гады малады святар пачаў актыўна ўдзельнічаць у рэлігійным і грамадска-культурным жыцці беларускай дыяспары ў Англіі.

Ужо больш за 20 гадоў Аляксандр Надсон узначальвае Беларускую бібліятэку імя Ф. Скарыны, у якой захоўваецца шмат каштоўных кніг, зборнікаў дакументаў, рукапісаў, што маюць непасрэднае дачыненне да гісторыі Беларусі, яе мовы, культуры. Бібліятэка падтрымлівае двухбаковыя сувязі з Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі, з Цэнтральнай навуковай бібліятэкай Акадэміі навук Беларусі, з бібліятэкай Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны і інш. Дзякуючы актыўным намаганням А. Надсона, гэтыя ўстановы маюць магчымасць перыядычна атрымліваць замежныя навуковыя часопісы, газеты, рэдкія беларускія кнігі. У Бібліятэцы імя Ф. Скарыны на працягу многіх гадоў рэгулярна праводзяцца разнастайныя вечарыны, навуковыя канферэнцыі, прысвечаныя выдатным беларускім пісьменнікам, гістарычным падзеям на Беларусі, нацыянальным святам.

А. Надсон таксама і таленавіты даследчык гісторыі беларускай культуры. Яго пяру належаць кніга пра творчасць Кірылы Тураўскага, артыкулы пра рэдкія выданні XVI—XVII стагоддзяў, што друкаваліся ў лонданскім часопісе "Божым шляхам". Ён перакладае і выдае на беларускай мове рэлігійныя, літургічныя тэксты, напісаў некалькі артыкулаў і на чарнобыльскую тэматыку.

Аляксандр Надсон, як чалавек вельмі душэўны і спагадлівы, актыўна займаецца дабрачыннай дзейнасцю. Пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС ён неаднаразова прывозіў на Беларусь мноства лекавых сродкаў, якія распаўсюджваліся ў бальніцах Мінска, Гомельскай і Магілёўскай абласцей. Беларускія дзеці — ахвяры радыяцыйнай катастрофы — ездзілі на адпачынак у Англію, дзе заўсёды былі жаданымі гасцямі ў Бібліятэцы імя Ф. Скарыны (або лонданскай Скарынаўцы). Тут іх добразычліва, гасцінна сустракаў наш выдатны зямляк.

Міхаіл ГЕДРОЙЦЬ — беларускі гісторык, педагог, публіцыст, эканаміст. Ён нарадзіўся ў 1929 годзе ў маёнтку Лобзаў каля вёскі Дзярэчын Слонімскага павета Навагрудскага ваяводства (цяпер — Зэльвенскі раён Гродзенскай вобласці). У 1940 годзе разам з маці і сёстрамі быў дэпартаваны ў Сібір. Пасля вайны, з 1947 года, стала жыве ў Англіі, у Оксфардзе. Скончыў Лондански універсітэт (1951). У 1954 годзе М. Гейдройць атрымаў брытанскае грамадзянства.

На працягу 1950—1960 гадоў канструяваў і эксплуатаваў самалёты як інжынер-авіябудаўнік. Выступаў на многіх навуковых канферэнцыях з дакладамі і паведамленнямі; друкаваў артыкулы па праблемах тэхналогіі, менеджменту, прамысловага планавання і інш.

М. Гейдройць з`яўляецца таксама вядомым гісторыкам, аўтарам навуковай працы па гісторыі Вялікага княства Літоўскага перыяду сярэднявечча ў кантэксце гістарычнага развіцця тагачаснай Еўропы. Ён зрабіў гістарычны каментарый да англійскага выдання беларускай "Хронікі Быхаўца". Мае шмат навуковых публікацый па гісторыі ВКЛ (найперш па пытаннях хрысціянізацыі беларускіх зямель у тагачасны перыяд).

У 1994 годзе падчас прэзідэнцкіх выбараў прыязджаў у Беларусь як назіральнік. Затым ён з дапамогай Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў устанавіў крыж на месцы расстрэлу свайго бацькі ў 1941 годзе. М. Гедройць перадаў у Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф. Скарыны свае рукапісныя ўспаміны пра бацьку, матэрыялы па генеалогіі роду Гедройцяў, ксеракопіі тых рэдкіх замежных навуковых прац, у якіх ёсць звесткі па гісторыі хрысціянізацыі Беларусі.

Дарэчы, сёлета спаўняецца 70 гадоў з дня нараджэння М. Гедройця. Таму з гэтай нагоды хацелася б шчыра павіншаваць нашага земляка з юбілеем і пажадаць яму далейшых поспехаў на ніве шчырага служэння свайму народу, сваёй Бацькаўшчыне.

Анджэй ЦЕХАНАВЕЦКІ — граф з Англіі (Лондан), князь з роду Мсціслаўскіх-Заслаўскіх, вядомы беларусіст-мастацтвазнаўца, доктар мастацтваў, ганаровы доктар, прафесар многіх універсітэтаў Еўропы, у тым ліку і Беларускага дзяржаўнага універсітэта, вядомы дабрадзей, мецэнат.

Князь А. Цеханавецкі — адзін з заснавальнікаў Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў (МАБ). Нядаўна ён перавёў з Англіі пэўную суму грошай, накіраваных на правядзенне буйнога навуковага форуму даследчыкаў гісторыі і культуры Беларусі — III Міжнароднага кангрэса беларусістаў, які павінен адбыцца ў красавіку ці маі наступнага года. Некалькі гадоў таму назад у Варшаве выйшла калектыўнае навуковае даследаванне польскіх і расійскіх вучоных, прысвечанае гісторыі вядомага ў Еўропе старажытнага роду Цеханавецкіх, герба Дамброва. Гэтая кніга выйшла дзякуючы непасрэднай падтрымцы і дапамозе прамога нашчадка гэтага роду — графа Анджэя Цеханавецкага. Аўтары кнігі прасочваюць гістарычную эвалюцыю гэтага роду на працягу звыш шасці стагоддзяў і адзначаюць, што Цеханавецкія паходзяць з паўночнай Мазовіі, з польска-беларускага памежжа, з дробнай шляхты.

Такім чынам, нават на прыкладзе гэтых трох персаналій беларускіх па паходжанню дзеячаў далёкага замежжа можна зразумець, што нашы суайчыннікі і за межамі сваёй Бацькаўшчыны заўсёды рабілі і робяць нямала добрых спраў на карысць усёй беларускай культуры, усяго беларускага народа. Нават знаходзячыся далёка ад Радзімы, яны шукаюць розныя шляхі і магчымасці служыць, дапамагаць ёй не толькі на словах, але і ў рэальных, канкрэтных справах — будзь то грашовая дапамога, ці перадача друкаваных матэрыялаў, ці дабрачынная дзейнасць, мецэнацтва і да т. п.

Усе мы, безумоўна, павінны быць удзячнымі такім вядомым дзеячам беларускага замежжа за іх самаахвярную, бескарыслівую працу дзеля дабра і працвітання нашай краіны. Хочацца спадзявацца, што і далей шэрагі такіх свядомых беларусаў свету будуць папаўняцца новымі сумленнымі руплiўцамі, прадстаўнікамі больш маладога пакалення, якім давядзецца жыць і працаваць у наступным стагоддзі.

**НА КОНКУРС "БЕЛАРУСЬ У МАІМ СЭРЦЫ"**

# АДКУЛЬ НАШ ПАЧАТАК І ДЗЕ НАШ ПРАЦЯГ?

Дзе карані твае,
Адкуль твой род пачаўся,
Ці з прыцемкаў быцця, —
Ці з цемры небыцця...

У кожнага з нас ёсць свае карані. Яны ўваходзяць у глыбіню стагоддзяў. Іх нялёгка адшукаць. Не ўсе продкі чым-небудзь праславіліся. Не ўсе трапілі на старонкі летапісаў. У большасці гэта былі звычайныя простыя людзі. Пра сваіх продкаў мы можам меркаваць толькі па расказах бацькоў і дзядоў. Таму і я ведаю толькі пра сваіх дзядоў і прадзедаў. І ўжо адчула, што трэба спяшацца размаўляць са сваімі старэнькімі дзядулямі і бабулямі, каб ведаць больш пра радавод.

Беларусы, адкуль мы? Хто мы такія? Чым слаўныя ў свеце? Адказы на гэтыя пытанні дае і веданне гісторыі. Без чаго не можа быць ні сучаснасці, ні будучыні. Нездарма папярэджваў мудрэц: перш чым ісці наперад — азірніся назад. Мінулае — гэта карані нашага тысячагадовага радаводнага дрэва. Не будзе каранёў — загіне дрэва, не застанецца ў будучыні і памяці пра нас.

Духоўная энергія нашых продкаў не знікае бясследна. Яна жывіць і ўмацоўвае род і ўвесь народ, дапамагае выстаяць у самыя цяжкія часіны. Але прыток гэтай энергіі адчувае не кожны, а толькі той, хто захаваў памяць пра сваіх продкаў і іх добрыя справы.

Тысячагадовы гістарычны шлях беларусаў адзначаны і найвышэйшымі ўзлётамі, і балючымі падзеннямі. Здабыткі нашых прашчураў сталі часцінкай нашага беларускага "я". Ёсць цудоўныя словы вядомага паэта:

"Я беларус і ганаруся,
Што маю гэтае імя..."

Як не ганарыцца нам, што менавіта на беларускай зямлі ўзгадаваны славутыя князь Рагвалод і князёўна Рагнеда, Усяслаў Чарадзей і Ефрасіння Полацкая, Кірыла Тураўскі і Францішак Скарына, Сымон Будны і Мікола Гусоўскі, Сімяон Полацкі і Якуб Колас, Янка Купала і Максім Багдановіч... Як многа зрабілі яны для свайго народа! І ўдзячны народ памятае іх імёны. Яны пакінулі нам тыя каштоўнасці, якія дапамагаюць зразумець сваё месца ў сусвеце.

Вялікі М. Карамзін сказаў: "Гісторыя продкаў заўсёды цікавая для тых, хто дастойны мець Бацькаўшчыну". Бацькаўшчына. Айчына. Радзіма. Пяшчотныя, добрыя, мілыя сэрцу словы. Калісьці Беларусь была падзелена на княствы. Самым магутным лічылася Полацкае. Затым беларусы злучыліся з літоўцамі, потым з палякамі, з рускімі. І з усімі беларусы ладзілі.

Беларусы ад прыроды спакойныя і лагодныя. Яны памяркоўныя, сціплыя, мудрыя і верныя слову людзі. Сярод іншых народаў яны славяцца сваёй працавітасцю, добразычлівасцю. А жанчыны заўсёды вызначаліся прыгажосцю і адданасцю.

Выхадцы з беларускай зямлі мелі ўплыў на суседнія дзяржавы. Яны неслі на Усход культуру і адукацыю. Гістарычны лёс беларускай зямлі вельмі цікавы. Яна заўсёды была на перакрыжаваннях і не знікла, не згубілася. Беларускую мову спрабавалі памяняць на польскую, літоўскую, рускую, але яна захавалася.

Беларусь — вялікі і прыгожы край. Ён славіцца цудоўнай прыродай, помнікамі старажытнасці, легендамі і казкамі, багатай народнай творчасцю. Я люблю Беларусь. Тут я адчуваю сябе добра і свабодна. Мяне цягне на беларускую зямлю. Кожны раз з нецярплівасцю чакаю сустрэчы з мілай сэрцу вёскай, дзе жыве мая радня.

А сама я нарадзілася ў Латвіі. Тут першая мая настаўніца, родная школа, дом, школьныя сябры. Латгалія — цудоўны край, тут шмат прыгожых мясцін, якія цешаць вока. Толькі з Беларуссю я звязана кроўна, там жывуць мае родныя і блізкія. Я не згаджаюся з такім поглядам: дзе нарадзіўся і жывеш — там твая Радзіма. Я мару ўсе свае веды данесці да тых беларусаў, якія жывуць тут, у Латвіі, каб умацоўваць іх адзінства, мець магчымасць падтрымліваць сувязь з Беларуссю, з беларускай культурай, традыцыямі. Для гэтага прымаю актыўны ўдзел у працы беларускага таварыства "Уздым", наведваю беларускую нядзельную школу. У гэтым бачу сваю сувязь з Бацькаўшчынай.

Мы — тройчы дзеці
ў вечным крузе,
Мы дзеці роднае сям`і,
І дзеці маці-Беларусі,
І дзеці матухны-Зямлі.

**Алена БУЧЭЛЬ,**
**студэнтка Даўгаўпілскага педуніверсітэта.**
Латвія.

**МАРШРУТЫ СЯБРОЎСТВА**

# ШТОГОД — У «ДРУКШАЙ»

Нам усім неаднойчы давodзілася пераконвацца: там, дзе "не праходзіць" афіцыйная, дзяржаўная дыпламатыя, сапраўдны цуд робіць так званая "народная". Людзі з розных краін, але аднолькавага сацыяльнага становішча, адной прафесіі, асабліва моладзь, звычайна хутка знаходзяць паразуменне. Нават калі і не ведаюць іншай мовы, акрамя роднай. Патрэбна толькі агульная справа, агульны клопат, агульная музыка — і тады ўсё зладзіцца. Сёлета гэта яшчэ раз прадэманстравалі ўдзельнікі традыцыйнага маладзёжнага злёту ў лагеры "Друкшай" на возеры Дрывяты на Браслаўшчыне. Штогод збіраюцца тут маладыя людзі, якія працуюць на прадпрыемствах радыёпрамысловасці Беларусі, Расіі, Украіны, Літвы, Латвіі і Эстоніі. У праграме агульнага адпачынку — шэраг цікавых сустрэч, вясёлыя конкурсы і спаборніцтвы, песні ля вогнішча. Дарэчы, сёлета ў лагеры "Друкшай" папаўненне: у злёце ўзялі ўдзел маладыя атамшчыкі з Ігналінскай і Мурманскай атамных электрастанцый.





Фота Віктара ТАЛОЧКІ, БелТА.

НА ЗДЫМКАХ: флаг лагера "Друкшай" узняты; каманда мінскага вытворчага аб'яднання "Гарызонт".

**АДВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ**

Ушанаванне памяці слынных беларусаў праводзіць ТБМ імя Ф. Скарыны віленскага краю. Сёння вуліцы ў Віленскім раёне носяць імёны К. Каліноўскага, Ф. Багушэвіча, У. Сыракомлі, А. Міцкевіча, Б. Тарашкевіча.

Па прапанове ТБМ на сесіі дэпутатаў Віленскага раёна вынесена пытанне аб увекавечанні памяці ў Лаворышках у назвах вуліц Францішка Скарыны, Адама Станкевіча і Яна Семашкевіча (Янка Быліна). Праз Лаворышкі праходзіць Полацкі тракт (шлях), па якому ў свой час неаднаразова праязджаў Францішак Скарына. У 1925—1927 гадах у мясцовым касцёле працаваў святаром Ян Семашкевіч, беларускі паэт.

Сёлета спаўняецца 50 год з дня смерці ў сталінскім ГУЛАГу Адама Станкевіча і Яна Семашкевіча. Багаслужэнне на беларускай мове з гэтай нагоды правёў ксёндз Ян Шуткевіч.

Дэвіз мерапрыемстваў ТБМ: "Каб помнілі і шанавалі Бога, сям'ю, мову, Бацькаўшчыну..."

**Юры ГІЛЬ.**
Вільня, Літва.



БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ



# «СТАЮ У ЧАРАХ ЦІШЫНІ»

Калі ўвойдзеце ў фае Дома нацыянальнасцей, не спяшайцеся падымацца па лесвіцы. Такое шчымліва-пранізлівае беларускае Палессе — з цёплым вечарам, драўлянымі мастамі, вялікай вадой, стагамі сена, сонечным сланечнікам — адкрыецца вам — дыханне перахопіць. "Мая зямля" — персанальная выстава, збор карцін мастака-беларуса Вячаслава Ігнаценкі — па-сапраўднаму веснавы падарунак усім нам, паднесены Дэпартаментам нацыянальных адносін. Гэта яны яго адшукалі, адкрылі і на такую персанальную выставу ў сябе сасваталі. А пасол Беларусі ў Малдове на адкрыцці вернісажа назваў Вячаслава беларускім малдаванінам. Ад усёй душы падзякаваў за мастацтва: "Быццам дома пабываў".

Сярод соцень эскізаў, накідаў (у Вячаслава правіла — ні дня без малюнка!) ёсць такі: вялікія нажніцы як бы рассякаюць, разразаюць густанаселены ліст яго памяці — на абрэзкі ўспамінаў. І размова ў нас атрымалася нечакана такой жа — з фрагментаў жыцця.

Вось дзяцінства казыча сонечным зайчыкам. Бабіна лета. Шырыня навокал неглядная. Мама яшчэ маладая, прыгожая капае бульбу. Ён, хлапчук, побач. Унізе Днепр ззяе мільёнамі іскрынак. Немагчыма не дзівіцца той прыгажосці. І мама гучна, шчаслівая радуецца ёй, як бы адмерваючы, пераліваючы яе ў сына. Таму, калі пачаў Слава маляваць, ніхто дома і не здзівіўся: як жа можна не затрымаць, не перадаць датыкненне погляду да прыгажосці на паперы, кардоне, палатне?..

І яшчэ кавалачак яго праўды. Прамень святла, што прабіваецца з суседняга пакою, не дае заснуць. Гэта бацька дапазна схіляецца над школьнымі сшыткамі. Растрывожаны Слава падыходзіць да яго басанож па халоднай падлозе: "Скажы, — гучна шэпча, — скажы, для чаго жыве чалавек?" Бацька ў вайну такім жа, як ён, хлапчуком партызаніў у лясах. Здзіўлена зазірае ў вочы сына: "Каб хаця добрае слова пасля сябе пакінуць. Так прайсці па жыцці, па зямлі адмеранае табе, каб ніхто кепскага пра цябе сказаць не мог..."

І больш позняе: сядзяць яны на дачы з вялікім майстрам, адным з яго першых у жывапісе настаўнікаў, народным мастаком Беларусі Віталем Цвіркам. Вечар ахутвае і супакойвае. І музыка Баха. І Цвірка неспадзявана на ўсё астатняе яго жыццё ўрок дае: "Мы слухаем адну і тую ж музыку, а выяўленчы рад у кожнага з нас свой: я звонкія ручаі і жаваронка ў вышыні бачу, а ты, быць можа, — лісце, што падае, і жураўліны клін. Вось так і ў кожным палатне павінна быць загадка".

З той пары, здаецца, у ім самім на ўсе часы пасялілася тайна. І ўсе яго работы, на самай справе, — развага. Аб свеце і аб сваім месцы ў ім.

Тут, у яго мастацкай майстэрні, пад самымі нябёсамі ў тэхнічных лабірынтах-закутках 14-павярховага дома на Рышканаўцы, мастак-рэаліст на выставе, Ігнаценка зусім іншай гранню перада мной раптам паўстае. Мае рацыю мастацтвазнаўца Валянціна Бабкова: ён і сапраўды імкнецца да артыстызму ў сваёй справе. Ён яшчэ і мастак, які валодае мастацтвам дызайна. Зрэшты, не толькі. Ён яшчэ і майстар колеразнаўства. Недарэмна менавіта гэты прадмет выкладаў навучэнцам у Інстытуце мастацтваў.

Вось яго адчуванне "Дома": паўсфера, нібы вялікае надбітае яйка, — вісіць, ляціць у сусвеце. Пачатак пачаткаў. Для дзіцяці, якое зараджаецца, чэрава маці — дом. І для таго, хто адыходзіць назаўсёды, будуюць дамавіну — апошні прытулак. А вось "Дарога". Цаглінкі адна, другая як бы закладзены ў сусвет тымі, хто жыў да нас. Што мы пакінем: зламаныя аўтамабілі, старыя камп`ютэры, пустыя кансервавыя бляшанкі, жоўць, амбіцыі? Але ж павінны ўбудаваць і свой камень у сцяну вечнасці! А трымаецца ж яна, гэтая каласальная сцяна, на колах ад дзіцячай каляскі. Як усё хісткае, ненадзейна! Няўжо калі-небудзь рухне?..

Кожнае лета бывае мастак у родным Палессі. Яшчэ і да 70-годдзя мамы прымеркаваў сваю выставу. Бацькі жывуць на Гомельшчыне (у вёсцы Перадзелка Лоеўскага раёна). У зоне Чарнобыля. Прарасла, не магла не прарасці ў ім, мастаку, гэтая тэма вельмі незвычайнымі работамі. У сасновым бары выпаў згубны радыеактыўны дождж, і ён раптам стаў бурым — "Рыжы лес". Не прыгажун больш, а ссохлая паміраючая калючка. І Багародзіца са сцёртым тварам, якая адвярнулася ад людзей... А вось "Ноч" — тая самая, калі адбыўся выкід. Хаос, цячэ кроў, брудная лава, што ўелася ў душу, скуру, якую ні за што не змыць.

Вёскі, тыя, што бліжэй да Чарнобыля, заражаныя так, што дэзактываваць іх было немагчыма. Капалі вялікі катлаван і скідвалі, зграбалі туды ўсё, што яшчэ ўчора, жывое і цёплае, чыёйсьці радзімай звалася. Высокія сакавітыя травы зверху выраслі. А ў карціне Вячаслава злавесны подых над гэтымі смертаноснымі катлаванамі.

На выставе вобраз другой яго зямлі — прыгожай і любімай да болю. Ён хацеў, каб такую, радасную, святочную, убачылі яго радзіму мы. На выставе Слава чытаў вершы на беларускай мове, сугучныя яго пейзажам: "Стаю у чарах цішыні"...

Пятнаццаць гадоў жыве мастак у Малдове. У Кішынёў прывезла яго Лізавета, жонка. І ўжо малдаўскі, днястроўскі пейзаж у акуратнай рамачцы вісіць у яго майстэрні. У розных жанрах сябе спрабаваў. Плакаты на тэму Вялікай Айчыннай выпісваў! Але пейзажы яго цудоўныя. За плячыма — шэсць персанальных выстаў: у Мінску, Кіеве, Адэсе, Цірасполі. На міжнародным вернісажы ў Канадзе некалькі гадоў назад у адной з катэгорый атрымаў першае месца, прадстаўляючы Малдову. Работы яго ахвотна забіралі ў прыватныя калекцыі ў Германію, Ізраіль, ЗША, Францыю.

— Вячаслаў, а ці можа мастак сёння забяспечыць годнае існаванне сям`і, не гандлюючы натхненнем, займаючыся толькі тым, што яму самому цікава?

— Ну што вы! Трэба кожнаму з нас для выжывання шукаць іншыя шляхі, каб дазволіць сабе тварыць. Мяне час ад часу выручае дызайн інтэр`ера. Справа, дарэчы, вельмі цікавая.

— Ці ёсць дарагая сэрцу работа, у якой няма цаны, тая, што не прадаецца?

— Я такую карціну яшчэ напішу!

Яго цёплы пэндзаль ацэняць аззябшыя. Чым даўжэй узіраешся ў чыстыя, быццам слязой ці навальніцай амытыя пейзажы Вячаслава Ігнаценкі, тым больш упэўніваешся: ён жадае свету добрай раніцы. Ён жадае міру нашым душам...

**Н. ТОРНЯ.**

("Кишинёвские новости"). Малдова.



*"Дарога".*



*"Жнівень. Нараджэнне воблакаў".*



*"Рыжы лес" (серыя "Чарнобыль").*



*Эцюд "Вечар".*



*"Пісьмо".*



*"Дом".*

ДЗІЦЯЧАЯ ЧЫТАНКА

# СЕРЖЫКАВЫ АПАВЯДАННІ



**Вельмі назіральны ўдаўся хлопчык Сержык, якому зараз восем гадкоў. Нічога нідзе не міне, не прапусціць. Убачыць, скажам, самы звычайны каналізацыйны люк, яму і люк гэты цікавы. Спыніцца ля яго і пакуль усё не выпытае, не распытае, не агледзіць, датуль яго ад таго люка не адцягнуць. Ці, скажам, усе ведаюць: снег белы. А вось куды знікае ягоная бель, як снег растане і зробіцца вадой, ніхто не задумваўся. А Сержык задумаўся. З чатырох гадоў пачаў чытаць. Чытае ўсё, што пад рукі патрапіць. Энцыклапедыя — дык энцыклапедыя, "Анатомія" — дык "Анатомія". Вельмі ж яму цікава, як чалавек зладаваны. Апроч таго, Сержык яшчэ і спагадны хлопчык: усё думае, каб для людзей што-небудзь добрае зрабіць, каб людзям лепш і больш прыгожа жылося. Марыць, як вырасце, стаць прэзідэнтам Беларусі. Вось у такіх парываннях ён жыве і расце. А я гэтыя ягоныя парыванні ладкую на паперы.**

**На Беларусі шмат такіх дзяцей, як Сержык, і ўсе мы ўглядаемся ў іх, як ў сваю будучыню.**

**Уладзімір СОДАЛЬ, Сержыкаў дзядуля.**

## ДОБРЫЯ НАМЕРЫ

Неяк аднаго разу Сержык, добра выспаўшыся, пагукаў мяне з бабкаю дый кажа:

— Дзядулька, я як вырасту, шмат чаго добрага вам зраблю.

— А што ж ты нам добрага зробіш? — здзівілася мы нечаканай Сержыкавай размове.

— А я вам дачу збудую!

— Дзякуй, унучак! Але ж у нас ёсць дача, — запярэчылі мы.

— Ну і што, — не здаваўся Сержык. — Я вам збудую новую — высокую, як вежа, і з балконам.

Расчуліў нас Сержык сваім клопатам, і мы на яго ласку адказалі ласкай:

— А ты і зараз нам шмат чаго добрага робіш, — кажам мы.

— А што ж я вам добрага раблю? — цяпер ужо дзівіцца Сержык.

— Усміхаешся нам ласкава, як сонейка... Вочкі твае прыветныя... Ручкі ў цябе пяшчотныя. З табою неяк больш радасна жыць...

Бачым, нашы словы грэюць Сержыкаву душу. Яму прыемна гэта ўсё чуць. Яму ўсцешна, што яго за карыснага чалавека лічаць, хаця ён яшчэ і малога веку. Ды так яму міла гэтая гаворка, што ён захацеў яе падоўжыць:

— А што яшчэ я вам добрага раблю?

— Словы добрыя, прыветныя нам гаворыш. Больш нам пакуль ад цябе нічога і не трэба... Будзем чакаць, пакуль ты вырасцеш і нам свае абяцанкі споўніш.

Сержык застаўся задаволены такой гаворкай. Ён, здаецца, у той момант і падрос трошкі. А хіба не?

## КУПАЛЬСКАЯ ГОРКА

Паблізу нашага лецішча, а месціцца яно ў вельмі вабнай мясціне — Сем крыніц, гэта паблізу Седчы, на самым ускрайку лесу ці можа, дакладней, у самім лесе, толькі трохі выскачыўшы з яго, ёсць высокі, нібы які насыпаны копчык, пагорак. Верх яго роўны, як стол, як пляцоўка якая. Унізе глыбокі, пакацісты, парослы травою яр з ручаінкамі. Гэты пагорак даўно аблюбавалі дачныя рамантыкі. Удзень тут грэюцца, загараюць. Вечарамі ж паляць вогнішча. Раз на год, на Купалле, на гэтым курганку бавім час і мы з Сержыкам: таксама палім вогнішча, водзім карагод, спяваем "Купалінку". Гэта ўсё падабаецца Сержыку. Ён і ў будныя дні любіць бавіць час на гэтым курганку з таго боку, дзе ўнізе яго яр, курганок пакаты, і Сержык разам з такімі ж дачнымі жэўжыкамі, як ён, любіць і проста пакачацца з таго кургана. Ляжа на схіл і пакаціўся, гарэзячы, як качалачка якая, з пагорка. Коціцца — коціцца і з радасці аж заходзіцца, што вырваўся з гарадскога віру на вольную вольніцу. А ўнізе пагорка шматтраўе, трыснёг з папараццюкветкаю.

Пра гэты курган ніхто з дачнікаў нічога не ведае. Але я адчуваю: у ім, за ім якаясь даўняя гісторыя. Курганок нагадвае нават валатоўку ці мо нават гарадзішча.

Кажу Сержыку: "Прыгожы курганок, толькі назвы ён не мае. Давай мы з табой яго як-небудзь назавём..."

— Давай! — кажа ён. — А як?

— Можа, Купальскай горкай назавём?

Сержык пагаджаецца са мной, і цяпер ён гукае:

— Дзядуля, пайшлі на Купальскую горку.

Услед за намі і іншыя пачынаюць тую валатоўку, той курганок пры Сямі крынічках называць гэтак жа, як і мы.

А ён і напраўду прыдатны да Купалля, купальскіх святаў. Як толькі апусціцца на зямлю змрок, тут чуваць кугуканне соваў, чуюцца і іншыя галасы начных птушак. У траве скачуць жабкі, цвыркаюць, не змаўкаюць цвыркуны, конікі... А вакол цёмныя грывы таямнічага лесу, таямнічай ночы.

## РЖА

Што такое ржа — ведае, бадай, кожны. Мне здавалася, і я гэта ведаю. Але трохі памыліўся. Пра тое пасведчыла мая размова з Сержыкам.

Ішлі неяк разам з ім. Патрапіла нам на вочы якаясь жалезка — ржавая-ржавая, аж тая ржа з яе парашком сыплецца.

— Глядзі, — кажу, — як ржа жалеза з`ела.

А Сержык мне на гэта:

— А што, дзядулька, ржа жывая?

— А чаму ты так пытаешся?

— Дык ты ж кажаш: "Ржа жалеза з`ела. А раз з`ела — значыць, яна жывая".

Мне на гэта не было чаго сказаць. Мабыць і праўда — жыве, калі такую моц, як жалеза, можа ў парашок пераварыць.

# ЗЯЗЮЛЯ І КУК

Згадваецца легенда: "У птушак быў свой цар — Кук. Лятаў ён па лесе, разганяў ваўкоў і лісіц, змей — усіх, хто нападаў на птушынае царства. Аднойчы Кук не вярнуўся ў сваё гняздо. Зажурыліся ўсе лясныя птушкі:

— Хто ж нас цяпер абароніць?

Сталі раіцца. Што рабіць? Трэба ісці шукаць свайго заступніка. А хто пойдзе? У кожнага справа: той гняздо робіць, той яечкі наседжвае, той дзяцей гадуе. Вырашылі яны адправіць зязюлю: у яе гнязда няма і дзяцей няма. Спалохалася зязюля, што трэба ісці ў вялікую дарогу, і знесла яечка.

— Куды ж я яго дзену? — гаворыць зязюля.

— Пакладзі яго ў любое гняздо! — адказалі ёй птушкі.

— А хто яго будзе выседжваць?

— Каму пакладзеш, той і даглядаць будзе.

— А хто ж маё птушанятка гадаваць будзе?

— Хто будзе сваіх гадаваць, той і тваё дагледзіць.

І паляцела зязюля шукаць Кука. Пралеціць трохі, сядзе на галінку і кліча:

— Ку-ку!

Праляціць і зноў кліча".

Гэта адна са шматлікіх легенд, прысвечаных зязюлі, — невялікай шэрай птушачцы, якая на працягу доўгіх гадоў успрымалася як сапраўдная варажбітка і прадвесніца чалавечага лёсу. "Прысвечаная багіні Жыве, зязюля лічылася прарочай, нябеснай пасланніцай, яна паведамляла аб прыходзе лета ("Зязюля кукавала — лецечка казала"), пачатку маланак і дажджоў, вызначала даўжыню чалавечага жыцця і тэрмін шлюбных саюзаў. Па яе голасу земляроб разважае аб будучым ураджаі: калі яна закукуе на досвітку і на зялёным дубе (у той час, калі лясы апранууцца ў лістоту), то год будзе ўраджайны, а калі закукуе на ноч і на голым дрэве — будзе голад і мор. Хто першы пачуе зязюлю на галодны страўнік, таму гэты год будзе няшчасны... Вясной, пачуўшы першы раз зязюлю, людзі спяшаюцца пазваніць грашыма — каб яны не пераводзіліся да наступнага года".

Сёння ўсе гэтыя павер'і мы ўспрымаем як фантазію нашых далёкіх продкаў, але, тым не менш, кожны з нас, раптам пачуўшы ў лясной цішы голас зязюлі, спыняецца і пачынае ўслухоўвацца ў яе мілагучнае "ку-ку", "ку-ку".

**Падрыхтавала Нэлі ПРЫВАЛАВА.**



*Хатні любімец.* **Фота Сяргея Халадзіліна, БелТА.**

КНІГАЗБОР

# ПРА ДЗЯДУЛЮ, ПРА, БАБУЛЮ...

**Выдавецтва "Юнацтва" падрыхтавала да друку кнігу паэта Леаніда Пранчака "Пра дзядулю, пра бабулю і пра іх унучку Юлю". Леанід Пранчак вядомы хлопчыкам і дзяўчынкам па кнізе "Дзяўчынка-беларуска", а таксама як аўтар дзіцячых песняў, у тым ліку і "Калыханкі", якая з 1989 года штодзённа гучыць у вячэрняй казцы Беларускага радыё.**

**Шматлікія вершы паэта ўключаны ў школьныя падручнікі, хрэстаматыі, чытанкі, друкаваліся ў зборніках "Заранка", "Сцяжына", "Акрайчык", "Пралеска", "Ласкавае сонейка" і іншых, рэкамендаваных да выдання Навукова-метадычным цэнтрам вучэбнай кнігі і сродкаў навучання Міністэрства адукацыі РБ.**

**Новую кнігу склалі займальныя вершы, вясёлыя песні, жартаўлівыя байкі, лічылкі, дражнілкі, скорагаворкі, а таксама вершаваная казка "Афрыканская вандроўка".**

**Кніга ілюстравана каляровымі малюнкамі, мае цвёрдую вокладку. Адрасуецца дзецям дашкольнага і малодшага школьнага ўзросту, іх бацькам, настаўнікам роднай мовы і літаратуры, выхавальнікам дзіцячых садзікаў.**

**Міхась ПАЗНЯКОЎ, галоўны рэдактар выдавецтва "Юнацтва".**

**Леанід ПРАНЧАК**

## ЧЫКІ-БРЫКІ

**Чыкі-брыкі,**
**Чыкі-брыкі,**
**Ходзіць хлопчык невялікі.**
**Называецца Якуб.**
**У яго кудлаты чуб.**

**Чыкі-брыкі,**
**Чыкі-брыкі,**
**Ходзіць хлопчык невялікі.**
**Называецца Хвядос.**
**У яго мурзаты нос.**

**Чыкі-брыкі,**
**Чыкі- брыкі,**
**Ходзіць хлопчык невялікі.**
**Называецца Уладак.**
**У яго ва ўсім парадак.**

**Ты — Якуб!**
**Я не Якуб!**
**Ты — Хвядос!**
**Я не Хвядос!**
**Хто ж ты,**
**Хлопчык невялікі!**
**Я — Уладак!**
**Чыкі- брыкі!**

## СПІЦЬ НАД ЛЕСАМ АБЛАЧЫНКА

*(Калыханка)*

**Баю-баю,**
**Лю-лі, лю-лі —**
**Гэта песенька матулі.**
**Закрывайце, дзеткі, вочы.**
**Добрай ночы,**
**Добрай ночы.**

**Дзед Лявон не спачывае,**
**Калыханку дзеткам бае.**
**Засынайце,**
**Калі ласка,**
**Вам прысніцца ўночы**
**Казка.**

**Спіць над лесам**
**аблачынка.**
**Засынай,**
**Мая дзяўчынка.**
**Добрай ночы,**
**Добрай ночы, —**
**Засынай,**
**Мой любы хлопчык.**

## ЛОСЬ

**Адвячоркам у сяло**
**Пад аркестр сарочы**
**Ні з таго і ні з сяго**
**Лось прыйшоў аднойчы.**
**Пазіраў ён праз паркан**
**Сумнымі вачамі.**
**Нюхаў кветкі і туман,**
**Чуйна стрыг вушамі...**
**Прастаяў ён ля гумна,**
**Як зачараваны,**
**Аж да самага цямна,**
**Ціхі і рахманы.**

**Сенам я пачаставаў**
**Госця дарагога,**
**Потым сфатаграфаваў**
**Волата ляснога.**
**Сена з'еў і напрасткі**
**Лось пайшоў паволі**
**Да сцюдзёнае ракі**
**Па асеннім полі...**

**Лось прыходзіў у сяло.**
**А чаго — дазнацца б:**
**Пазнаёміцца! А мо —**
**Сфатаграфавацца!**


«Голас Радзімы»

**Рэдактар Наталля САЛУК**

**Заснавальнікі:**
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь;
Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі;
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").

Пазіцыі рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.
Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).
Тыраж 1 625 экз. Індэкс 63854. Зак. 1623.
Падпісана да друку 6.09.1999 г. у 12.00.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.



**Наш адрас:**
220005, Мінск, пр. Ф. Скарыны, 44.
**Тэлефоны:**
(+375-17) 213-31-97, 213-32-80, 213-30-15, 284-76-56, 213-37-82.